КРЫНІЦА

№7 Верасень, 2009 www.bchd.info

# БЕЛАРУСЫ ВЫБІРАЮЦЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ

**Хутка ўжо дваццаць гадоў, як Беларусь атрымала дзяржаўную незалежнасьць. За гэты час вырасла цэлае пакаленьне маладых беларусаў. Але ці можам мы ўпэўнена сказаць, што жывем у незалежнай краіне?**



Няма ніякай мяжы з Расейскай Фэдэрацыяй (і «шэры» імпарт, і нелегалы, і крымінал бесперашкодна перацякаюць адтуль сюды); РБ уваходзіць у вайсковы саюз з Расеяй і аўтарытарнымі рэжымамі Сярэдняй Азіі (так званая АДКБ); татальная русіфікацыя ў СМІ й культурнай сферы вымыла амаль усю беларушчыну… Нарэшце, ад беларускага народа ў сеньнішняй сістэме «прэзідэнцкай дэмакратыі» сапраўды нічога не залежыць. Незалежнасьць…

Між тым, паводле апошніх сацыялягічных апытаньняў, **да 90% сёньняшніх беларусаў хочуць жыць у сапраўды незалежнай дзяржаве**. І наладжваць стасункі як з Расеяй, так і Эўрапейскім Зьвязам з пазіцыяў уласнага нацыянальнага суверэнітэту.

Прынцып адасобленасьці, аддзяленьня сябе ад іншых, усьведамленьня сваёй адметнасьці ёсьць асновай паняцьця «нацыя». Богаабраны Ізраіль – найстаражытнейшая нацыя, прыналежнасьць да якой патрабавала выкананьня 10 запаветаў – ахоўваў сваю асобнасьць нават у найдрабнейшых дэталях быту. Гэта дазволіла габрэям захавацца ў двухтысячагадовым рассеяньні й застацца найбольш уплывовым народам у сьвеце. Для нацыяў духовага гатунку – а да такіх, безумоўна, належаць беларусы – паняцьце «незалежнасьць» набывае зьмест, параўнальны зь біблійнай сьвятасьцю.

Адасабленьне, чысьціня дзеля выкананьня Богам дадзенага пасьвячэньня!

У 1990-х незалежнасьць Беларусі дасталася літаральна цудам. Сучасьнікі так і казалі: «звалілася зь неба». Але ў гэтым і ёсьць сэнс беларускай незалежнасьці – яна нам дадзеная звыш.

**Нацыянальная Рада БХД прыняла рашэньне, што ў верасні паўсюль, дзе ёсьць структуры хрысьціянскіх**



**дэмакратаў, павінны прайсці акцыі ў абарону незалежнасьці.**

Па-першае, менавіта ў верасьні на тэрыторыі Беларусі распачынаюцца найбуйнейшыя вайсковыя расейска-беларускія вучэньні з часоў распаду СССР – у іх возьмуць удзел ад 12 да 60 тыс. вайскоўцаў. А як жа канстытуцыйны статус Беларусі як нейтральнай дзяржавы?.. **Нашы пікеты, расьцяжкі, улеткі мусяць паказаць і Расеі, і ўсяму сьвету: беларусы выбіраюць незалежнасьць**!

Па-другое, залежнасьць Беларусі ад Расеі ўсё больш выяўляецца ў эканоміцы. Апроч газавага й нафтавага шантажу й крэдытнае кабалы апошнім часам для беларускай незалежнасьці зьявілася яшчэ адна пагроза з Усходу: у Менску, буйных гарадох і мястэчках расейскія алігархі й крымінальнікі скупаюць нерухомасьць, будуюць казіно ды палацы. Звычайная беларуская сям'я ня можа купіць аднапакаёвую кватэру – а маскоўская ды піцерская мафія невядома па якой схеме набывае цэлыя шматпавярховыя дамы (і потым перапрадае беларусам жытло ўтрыдорага). **БХД павінна запытацца ў кожным такім канкрэтным выпадку: за чые грошы будуюцца або купляюцца гэтыя аб'екты? Чаму на беларускай зямлі гаспадараць прышлыя ўладальнікі сумнеўных капіталаў?**

Па-трэцяе, ужо праз месяц, у кастрычніку пачынаецца кампанія Нацыянальнага перапісу насельніцтва. Падчас мінулай кампаніі, у 1999-м, улады, каб узаконіць русіфікацыю, увялі ў перапісны ліст побач з пытаньнем «Якую мову вы лічыце роднай?» пытаньне «На якой мове вы размаўляеце дома?» Думалі, амаль усе адкажуць «по-русски» – але 37% апытаных засьведчылі: «пабеларуску». Давялося хоць на нейкіх шыльдах, у транспарце ды ў многіх мясцовых газэтах беларуску захоўваюць. Але на тэлевізіі, радыё русіфікацыя толькі ўзмацнілася. У Беларусі дагэтуль няма аніводнага беларускамоўнага ўнівэрсітэта або тэлеканалу (калі не лічыць замежы «БелСАТ»). **Таму мы заклікаем дзеля падтрымкі беларускай мовы патрабаваць ад перапісчыкаў беларускамоўных бланкаў і на пытаньне аб роднай мове і мове зносінаў адказваць: «беларуская».**

Па-чацьвёртае, большасьць цэнтральных вуліцаў беларускіх гарадоў дагэтуль носіць імёны бязбожных камуністычных правадыроў, якія зьнішчалі хрысьціянаў і патрыётаў: Леніна, Дзяржынскага, Фрунзэ, Сьвярдлова… **Паўсюль, дзе ёсьць сябры БХД, наша задача – падаць у мясцовыя органы ўлады прапановы пераймяноўваць такія вуліцы і даць ім беларускія і хрысьціянскія або вярнуць гістарычныя назвы.**

Да таго ж, у верасьні пачынаецца новы навучальны год. **Акцыі «Люблю Беларусь» – ад Шоў Беларушчыны да курсаў, прэзэнтацыі беларускіх кнігаў, канцэрты для школьнікаў і студэнтаў – наш абавязак з мэтай умацаваць незалежнасьць.**

БЕЛАРУСЫ ВЫБІРАЮЦЬ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦЬ!

У пытаньнях арганізацыі й правядзеньня акцыяў, калі ласка, зьвязвайцеся:
+375 29 5160861 Павал (рэгіёны)
+375 29 7635954 Віталь (Менск)

*Рэдактар*







# БХД БУДЗЕ ПРАВОДЗІЦЬ НОВЫ УСТАНОЎЧЫ З'ЕЗД



**Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя правядзе новы Устаноўчы з'езд у кастрычніку.**

Як растлумачыў пазіцыю Партыі Аляксей Шэін, рашэнне аб паўторнай спробе рэгістрацыі базуецца на двух падставах:

«Па-першае, БХД выступае за тое, каб скарыстаць усе законныя магчымасці. Па-другое, перыяд рэгістрацыі стаў вельмі плённым для Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Устаноўчы з'зд стымулюе актыўнасць як сяброў партыі, так і людзей, якія проста спачуваюць хрысцінска-дэмакратычным каштоўнасцям. За тыя месяцы, што прайшлі пасля Устаноўчага з'езду, колькасць новых сяброў БХД павялічвалася больш чым на 100 чалавек штомесяц».

Разам з тым, з'езд плануецца больш масавым за папярэдні. «Будзе больш гасцей, у тым ліку і замежных», – паабяцаў Аляксей Шэін.

# ПАКТ МОЛАТАВА-РЫБЕНТРОПА – ГАЛОЎНАЕ ЗЛАЧЫНСТВА XX СТАГОДДЗЯ

**22 жніўня ў Мінску адбылася навукова-практычная канферэнцыя «70-годдзе пакту Молатава – Рыбэнтропа і яго гістарычныя наступствы». Канферэнцыя адбылася ў рамках акцыі «Пакаянне», арганізатарам якой з'яўляецца «Беларуская Хрысціянская Дэмакратыя».**



Галоўнай мэтай канферэнцыі, паводле сустаршыні БХД Віталя Рымашэўскага, было сабраць вядучых беларускіх гісторыкаў і адмыслоўцаў, якія даследуюць злачынствы камунізму. І гэта ўдалося.

Падчас канферэнцыі з дакладамі выступілі беларускія і нямецкія гісторыкі, палітолагі, сярод якіх Ігар Кузняцоў, Якаў Басін, Эмануіл Іофэ, Беньямін Кройз (Германія), Уладзімір Гуленка. Адмыслоўцы канстатавалі, што дагэтуль поўнай праўды пра гэтую надзвычай драматычную старонку гісторыі няма.



Далучыўшы ў верасні 1939 году Заходнюю Беларусь і Украіну, якія ўваходзілі ў склад Польшчы, СССР па сутнасці, тады ж, у 1939-м, а не ў 1941 годзе, уступіў у Другую Сусветную вайну. Дамова ізалявала СССР ад сіл, што змагаліся з фашызмам. На тэрыторыі СССР была забароненая любая антыфашысцкая прапаганда. У Нямеччыны і СССР з'явілася агульная мяжа, і пытанне аб нападзе аднаго з партнёраў стала пытаннем часу.

Існаванне сакрэтнага пратаколу да дамовы аб ненападзе паміж Нямеччынай і Савецкім Саюзам доўгі час адмаўлялася савецкім бокам. Толькі пры канцы 1980-х гадоў гэты факт быў прызнаны і вядомы грамадскасці. У сакрэтным пратаколе было 2 артыкулы, якія і вызначылі развіццё падзеяў.

Па выніках канферэнцыі плануецца выпусціць зборнік навуковых работ, прысвечаны тэме «70-годдзе падпісання пакта Молатава-Рыбентропа і яго гістарычныя наступствы».

# ВІТАЛЬ РЫМАШЭЎСКІ: «БХД МАБІЛІЗУЕ ЎСЕ СІЛЫ НА АБАРОНУ ЦАРКВЫ «НОВАЕ ЖЫЦЦЁ»



**«У выпадку супрацьпраўных дзеянняў датычна «Новага Жыцця», беларускія ўлады могуць сутыкнуцца з шырокай негатыўнай рэакцыяй як унутры краіны так і па-за яе межамі,» – сказаў ў інтэрв'ю прэсавай службе БХД Сустаршыня Партыі Віталь Рымашэўскі. Таксама палітык паабяцаў, што БХД «мабілізуе ўсе свае сілы на абарону царквы «Новае Жыццё», якую б форму супрацьстаянне не набыло».**

«Нягледзячы на тое, што асабіста я – праваслаўны хрысціянін, – сказаў Віталь Рымашэўскі, – мяне сур'ёзна непакоіць сітуацыя вакол пратэстанцкай царквы «Новае Жыццё». Гэта не праблема канфесіі, гэта – пытанне хрысціянскай салідарнасці і пытанне права чалавека на свабоду сумлення. Роўнае стаўленне да ўсіх людзей, у незалежнасці ад іх веравызнання, павінна гарантавацца дзяржавай. На сёняшні дзень, нажаль, мы бачым цалкам супрацьлеглую сітуацыю».



Палітык яшчэ раз агучыў пазіцыю, якую займае БХД па праблеме царквы «Новае Жыццё»:

«Тут усё выглядае даволі проста і зразумела: Беларуская Хрысціянскай Дэмакратыя паважае правы чалавека, і адной са сваіх асноўных мэтаў бачыць абарону гэтых правоў. За рэалізацыю права на свабоду сумлення БХД адчувае асаблівую адказнасць. Таму мы мабілізуем усе нашыя сілы на абарону царквы «Новае Жыццё», якую б форму супрацьстаянне не набыло».

«Акрамя гэтага я звяртаюся да беларускага ўраду і асабіста спадара Лукашэнкі з заклікам спыніць супрацьзаконныя дзеянні ў дачыненні да царквы «Новае Жыццё».

Нагадаю, што салідарнасць з царквой выказалі не толькі шматлікія грамадзяне Беларусі, але і шэраг замежных палітыкаў (у тым ліку і хрысціянскія дэмакраты розных краін),» – сказаў спадар Рымашэўскі.

«У выпадку супрацьпраўных дзеянняў датычна «Новага Жыцця», беларускія ўлады могуць сутыкнуцца з шырокай негатыўнай рэакцыяй як унутры краіны так і па-за яе межамі,» – папярэдзіў палітык.

20 – 21 жніўня ў царкве «Новае Жыццё» адбыўся 26-гадзінны малітоўны марафон. Будынак ужо лічыцца дзяржаўнай маёмасцю, але штурму царквы не адбылося.

На апошняй стадыі марафону ў будынку царквы знаходзіліся каля 500 вернікаў. За ўсе 26 гадзін малітоўнага марафону ў набажэнстве прынялі ўдзел каля 800 чалавек.

Прысутнічалі не толькі вернікі «Новага Жыцця» але і прадстаўнікі мноства евангельскіх цэркваў з усёй Беларусі, а таксама сябры БХД.

У гэты ж дзень кіраўніцтва БХД заклікала амбасадараў заходніх краін падтрымаць «Новае Жыццё». Амбасадары адрэагавалі на зварот кіраўніцтва БХД: фактам своеасаблівай падтрымкі стала запрашэнне пастара царквы «Новае Жыццё» Вячаслава Ганчарэнкі на штотыднёвую сустрэчу ў амбасадзе Францыі. Сустрэча адбылася ў аўторак, 25 жніўня, на ёй прысутнічала 10 амбасадаў краін Еўразвязу.

Таксама з падачы БХД далучаюцца да абароны «Новага Жыцця» еўрапейскія палітыкі. Еўрапейскі Хрысціянскі Палітычны Рух (European Christian Political Movement) размясціў на сваім афіцыйным сайце заклік БХД аб падтрымцы вернікаў з царквы «Новае Жыццё» ў змаганні за свае правы. Акрамя гэтага, пра сваю падтрымку вернікаў заявілі бельгійскія дэпутаты-хрысьціяне.

*Прэс-служба БХД*





***Дарагія чытачы «Крыніцы»!***



*Сёньня ў нашай рубрыцы мы прадстаўляем праект «ТВАЁ ІМЯ, БЕЛАРУСЬ». У кожным нумары газэты мы будзем друкаваць матар'ялы пра найвялікшых беларусаў і беларусак. Мэта: выбраць Імя Беларусі – асобу, што выяўляе нашу Радзіму найпаўней. Пачалі мы з Эўфрасіньні Полацкай, беларускай сьвятой. Атрымальнікі нашай паштовай рассылкі пазначылі, пра каго б яны хацелі прачытаць у «Крыніцы»: найбольш галасоў набралі Францішак Скарына (22), Кастусь Каліноўскі (18), Янка Купала (18), Васіль Быкаў (17), Вітаўт (17), Міхал Клеафас Агінскі (16), Максім Багдановіч (15), Уладзімір Караткевіч (14), Леў Сапега (14), Мікалай Радзівіл Чорны (12). Запрашаем і вас удзельнічаць у праекце – дасылаць свае тэксты і меркаваньні. Сеньня мы прадстаўляем* **Кастуся Каліноўскага**.

***Абярэм Імя Беларусі разам!***

# КАСТУСЬ КАЛІНОЎСКІ



У кожнай нацыі абавязкова ёсьць такі легендарны паўстанец. Малады. Ідэаліст. Змагар супраць акупацыі, які церпіць паразу, але не скараецца – і перад сьмерцю пакідае за сабой апошнiя, крылатае слова.

«Толькі тады, народзе, зажывеш шчасьліва...»

У савецкія часы Каліноўскага раскручвалі як рэвалюцыянэра – і на гэтых словах з-пад шыбеніцы цэнзура ставіла шматкроп'е.

Пра Каліноўскага дарэчна сказаць: годны сын беларускага народа. У 24 гады ён узначаліў паўстаньне, ужо ў 26 загінуў.

Шляхціч з Заходняе Беларусі. Студэнт Піцерскага юрфаку. Лідэр моладзі. Незалежнік. «Яська – гаспадар з-пад Вільні». Абаронца вуніі... Каліноўскі кінуў выклік усёй імпэрыі й яе генэрал-губэрнатару Мураўёву-вешальніку. Расейскаму штыку, расейскай школе й расейскай царкве.

«Бог стварыў чалавека, каб ён карыстаў з вольнасьці справядлівай» – пісаў Каліноўскі ў «Мужыцкай праўдзе».

Каліноўскі больш года кіраваў паўстаньнем 1863-64 гг. у Беларусі й наладжваў падпольны супраціў пасьля разгрому ўзброеных атрадаў. Арыштаванага на канспіpацыйнай кватэры ў Сьвятаянскіх мурох Вільні, яго прысудзілі да пятлі.

Рэдактар нелегальнае «Мужыцкае праўды» быў сапраўдны мужык. Рашучы, цьвёрды, жалезнае вытрымкі й ваярскага духу. Хлопчыкаў-»сувораўцаў» належыць перайменоўваць якраз у «каліноўцаў».

Кастусь Каліноўскі – прозьвішча чаканае й навостранае, быццам клінок. Каліноўскі – заклік калёнае сталі. «Каліноўскі» – і колькі пакаленьняў устае з каленяў!

Каліноўскі быў чырвоны. Радыкальны колер каліны. Насуперак белым кансэрватарам, ён ставіў на рэвалюцыю: «далоў самадзяржаўе», «зямлю – сялянам», «у нас няма дваранаў – усе роўныя». Але вясковай Беларусі, пазбаўленай мовы, гісторыі й гораду, былі патрэбныя яшчэ й сьляпушы выбух сьвядомасьці, і чыстая эліта, і сьветлае ду-




ховае адраджэньне. Беларусь чакала бел–чырвона–белага!

Кастусь Каліноўскі – галоўны герой нацыянальнага адчаю. Паўстаньне адпачатку было асуджанае на правал: самі сяляне потым лавілі й здавалі мяцежнікаў. Параза была непазьбежнай ня толькі таму, што Расейская імпэрыя валодала несувымерна большай сілай. Проста Беларусь заўжды перамагала ня гвалтам, ня зброяй, а духам і словам.

І ўсё-такі мужнасьць ёсьць мужнасьць, і воля ёсьць воля. Таму ў моманты адчаю Беларусь першым узгадвае яго. Кастуся Каліноўскага.

*З кнігі Паўла Севярынца «Люблю Беларусь»*




# ВІТАЛЬ РЫМАШЭЎСКІ: КРАІНАЙ ПАВІННЫ КІРАВАЦЬ СУМЛЕННЫЯ ЛЮДЗІ

**Партыя БХД першай з палітычных сілаў Беларусі заявіла пра свае прэзідэнцкія амбіцыі. Сустаршыню БХД Віталя Рымашэўскага прэтэндэнтам на ўдзел у наступных выбарах прэзідэнта вылучыла Нацыянальная канферэнцыя Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі яшчэ 23 траўня ў Менску. Палітык распавёў «Крыніцы» пра сваё стаўленне да веры, жыцця і беларускай палітыкі.**

**– Спадар Віталь, Вы – сустаршыня БХД, то бок прадстаўнік партыі, якая стаіць на падмурку веры. А што ёсць вера для палітыка Рымашэўскага?**

– Да 20 гадоў я, прызнаюся, быў атэістам. Вучыўся ў савецкай школе – таму дакладна ведаў, што Бога няма. І вось у 20 год, раптоўна, абсалютна нечакана для сябе, я зразумеў, у чым сапраўднае жыццё, адчуў тое, што Бог ёсць. Зразумеў, што Бог – гэта і праўда, і прыгажосць, і ўсё тое добрае, што людзі маюць у сабе. Шукаюць і імкнуцца да гэтага, але не ведаюць часам, дзе гэта знаходзіцца. Вельмі важным я палічыў прывесці ў Царкву сваіх бліжэйшых сяброў з хвалі Адраджэння. У гэтых людзей я бачыў шмат смеласці, мужнасці, жадання ахвяраваць сабой, але тое, чаго яны насамрэч шукалі – маглі знайсці толькі ў Царкве. Хрысціянства ўзбагачае жыццё, адкрывае ягоны сапраўдны сэнс.

Духоўнае жыццё – гэта тое, што і робіць нас людзьмі. Я б жадаў, каб у жыцці кожнага чалавека гэта духоўнае жыццё было.

**– Ці магчыма спалучыць хрысціянскія каштоўнасці і палітычнае жыццё, якое здаўна чамусьці лічыцца не вельмі чыстай справай?**

– Усе людзі хочуць, каб краінай кіравалі сумленныя людзі. Каб быў у грамадстве трывалы падмурак духоўных каштоўнасцяў. Гісторыя сведчыць, што там, дзе панавала хрысціянства, – былі самыя моцныя дзяржавы. Калі законы базуюцца не на духоўных каштоўнасцях, то рана ці позна народ страчвае сваю дзяржаву і знікае сам.

Зазначу, што калі я кажу пра хрысціянскія каштоўнасці, то маю на ўвазе хрысціянства без падзелу на канфесіі. Сам я праваслаўны хрысціянін, але прызнаю свабоду выбару і разумею, што навязваць чалавеку канфесію недапушчальна, трэба прымаць і іншыя хрысціянскія веравызнанні. Свабода сумлення – адна з найважнейшых прыкмет існавання грамадства.

Лёс Беларусі неадрыўна звязаны з хрысціянствам, беларуская культура, дзяржаўнасць пераплецены з ім. Але хрысціянскасць беларусаў трэба аднаўляць ад атэістычных, камуністычных і фашысцкіх уплываў.

**– Як вядома, Партыя БХД выступае за папулярызацыю ў беларускім грамадстве сапраўдных сямейных каштоўнасцяў. Ведаем, што Ваша сям'я якраз зараз чакае дзіця.**

– Моцная сям'я – падмурак любой дзяржавы, любога грамадства. Месца, дзе чалавек расце, выхоўваецца і з свайго дзяцінства – як з крыніцы – выносіць на свет свой светапогляд, свае паводзіны. І калі ў сям'і ёсць любоў, павага, культура ў адносінах да іншых, то можна казаць, што чалавек вынесе гэта і ў сваё дарослае жыццё. І, адпаведна, наадварот.

Зараз шмат разводаў, шмат сямейных праблем. Па свайму досведу магу сказаць, што без Бога, без веры, толькі сыходзячы з уласных жаданняў і ілюзій, будаваць сумеснае жыццё цяжка, нават немагчыма. Без хрысціянскага падмурку беларускія сем'і чакае знікненне. І таму шмат прыкладаў у сучасным нашым жыцці. Заўважу, што адказнасць за разбураныя сем'і шмат у чым нясе дзяржава, якая часам нават заахвочвае людзей толькі бяздумна спажываць. Можна прыгадаць тут трагедыю на Нямізе, калі надуманае свята пад піва і цыгарэты скончылася дагэтуль сур'ёзна не асэнсаванай трагедыяй.

**– Віталь, Вы, пэўна, будзеце самым маладым палітыкам у наступнай прэзідэнцкай кампаніі. Якія перавагі ў гэтым бачыце?**

– Насамрэч у палітыцы я ўжо з 1996 года. Яшчэ падчас працы ў «Маладым Фронце» я заўважаў пэўную тупіковасць у працы партыйных арганізацый апазіцыі. На жаль, яны хоць і былі створаны людзьмі са шчырымі нацыянальнымі перакананнямі, але пры гэтым шмат у чым бралі за ўзор савецкія структуры. Мне так падаецца, што палітыкі больш сталага пакалення не разумеюць, што мала прадэкляраваць новыя лозунгі, трэба таксама паказаць прыклад іншага досведу, іншай працы. Я меркаваў яшчэ тады, што патрэбна прынцыпова новая арганізацыя палітычнай структуры.

**– Вы каардынуеце кампанію «Пакаянне». Распавядзіце пра яе мэты, калі ласка.**



– Да арганізацыі кампаніі мяне прывяло асабістае знаёмства з пастарам Эрнстам Сабілам. Гэта сустрэча – адзін з самых каштоўных досведаў майго жыцця. Ён і натхніў мяне на арганізацыю такой справы, якая дапаможа беларусам асэнсаваць падзеі ХХ стагоддзя ў краіне, пачаць новае жыццё.

Адна з самых вялікіх праблем беларусаў – адсутнасць памяці. Мы крычым, што рускія, або немцы, або палякі знішчылі нашую нацыянальную памяць. Праўда ў гэтых словах ёсць, але няпоўная. Бо мы самі не захоўваем сваю спадчыну, не скарыстоўваем тых шансаў, якія маем.

Праект накіраваны на асэнсаванне нашым пакаленнем досведу былых рэпрэсаваных, вязняў камуністычных і фашысцкіх канцлагераў.

Заўважу, што падчас працы у кампаніі я зразумеў, што ў беларускай палітыцы не павінна быць камуністаў ды іх хаўруснікаў пасля таго, што пабачыла Беларусь ад носьбітаў гэтых ідэй. Прапаганда таталітарных каштоўнасцяў – смяротная для Беларусі.

Камуністычныя ідэі, якія прапагандуюць паступовую адмову ад нацыянальных адметнасцяў і пабудову грамадства на ўтапічным фундаменце, тым не менш, нясуць рэальную пагрозу знішчэння мовы. Бо пакаленні чыноўнікаў, выхаваных пры саветах, не бачаць у ёй аніякай каштоўнасці.

Я сам, калі быў савецкім вучнем, шчыра кажучы, не разумеў навошта нам вывучаць Беларусь. Але ў старэйшых класах стаўленне да беларускай мовы і культуры ў мяне кардынальна змянілася. Размаўляць па-беларускі стала для мяне неабходным. Бо размаўляць па-расейску азначала далучацца да тых, хто забіваў мой народ, маіх дзядоў і прадзедаў. Размаўляць па-беларуску – гэта мой маральны выбар.

Лічу, што мову адродзяць менавіта беларускамоўныя сем'і.

**– Скончваючы размову, хацелася б пачуць пра тое, чаму менавіта БХД можа стаць выбарам для беларускіх людзей?**

– Мэта Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі – прапанаваць грамадству Беларусі палітычны лад, які грунтуецца на хрысціянскіх каштоўнасцях і даць узор новай палітычнай культуры.

Нашы плюсы: ёсць паспяховы досвед сустаршынства, калі на агульную мэту працуюць некалькі лідэраў, поліканфесійнасць. БХД – унікальная для Беларусі палітычная сіла, якая мае будучыню і перспектыву.

Натуральна, партыя не можа не мець свайго кандыдата на прэзідэнцкіх выбарах. Я ведаю свае недахопы. Але за мной стаіць БХД. Для мяне гонар яе прадстаўляць – нашу каманду, вялікі зрэз грамадства. Мы ведаем рэальныя патрэбы людзей – у гэтым наша сіла.

*Прэс-служба БХД*

# ДВУ



Вядучая «Двубою»
Ірына ГУБСКАЯ

***Дарагія чытачы!***
***Прапануем Вашай увазе ДВУБОЙ. Кожны нумар газэты два лідэры БХД спрачаюцца па найбольш вострых і важных пытаньнях палітыкі і грамадзкага жыцьця: змаганьне з алькагалізмам і абортамі, стасункі з ЕС, Расеяй, NATO, будаўніцтва АЭС, сьмяротнае пакараньне.***
***Пераможцу вызначыце Вы! Сёньня – першы паўфінал: «Вы за прэзідэнцкую ці за парламенцкую рэспубліку?»***



*гісторык*

## Алесь Круткін :
### «Беларусь павінна быць парламенцкай рэспублікай»

Па-першае, Беларусь – гэта еўрапейская краіна, якая, на мой погляд, у будучым павінна уваходзіць і у ЕЗ, і у НАТА, мець месца у Радзе Еўропы. Сёння большая частка еўрапейскіх краін – парламенцкія рэспублікі. Гэта такія краіны як Нямеччына, як Галандыя і інш. Гэта краіны з самымі высокімі тэхналогіямі у прамысловасці і сельскай гаспадарцы, навуцы ды культуры. Гэта краіны свободы слова і дэмакратыі.

Канешне, есць сярод «паказальных» краін і прэзідэнцкія рэспублікі, як напрыклад Злучаныя Штаты Амерыкі есць і як манархіі, напрыклад Вялікабрытанія, Нарвегія, Іспанія. Францыя, Фінляндыя – увогуле прэзідэнцка-парламенцкія рэспублікі. Але гэтыя сістэмы кіравання склаліся тут гістарычна і да сенняшняга дня маюць ужо пэўныя вынікі, якія і дапамагаюць краінам квітнець. Вялікабрытанія, Іспанія, Нарвегія – тут манархія спрадвечна, прычым зараз толькі фармальна, а фактычна краінай кіруе парламент.

Беларусі, на жаль, такога вопыту кіравання няма, ці лепш сказаць вельмі малы і не надта пасляховы. Доказ таму сенняшняя беларуская сітуацыя – палітычны рэжым Лукашэнкі.

Больш таго, гістарычна Беларусь была парламенцкай рэспублікай. Успомнім часы Вялікага княства Літоўскага ці Рэчы Паспалітай. Хтосьці скажа, што гэта часы манархіі. Канешне. Але ж фактычна краінай кіраваў Сойм, які складаўся з магнатаў ды буйной шляхты. Першая у Еўропе канстытуцыя – Статут ВКЛ! Беларусь у той час не была ізалянавай краінай у цэнтры Еўропы, а была адным з цэнтраў еўрапейскай культуры і навукі. Беларускія даследчыкі і навукоўцы, гісторыкі ды музыкі, мастакі ды мецэнаты... Сення іх імены з годнасцю адносяць да спісу самых вядомых жыхароў нашай планеты, людзей, якія зрабілі вялікі ўнесак не толькі у гісторыю сваей краіны, але і ўсяго свету. Дзе такія імены сення? Хіба іх стала меней? Не, проста зараз пра нашыя поспехі ці увогуле нічога не чутна, ці яны патэнтуюцца як дасягненні тых жа амерыканцаў ды немцаў, ці яшчэ каго. Мне падаецца што тут таксама есць і «ўнесак» рэжыму, які зачыніў межы Беларусі ад Еўропы і свету. Рэжым жа – вынік сваеўладдзя аднаго чалавека.

І незалежнасць у пачатку 90-х гадоў XX стагоддзя мы атрымалі дзякуючы таму, што у парламенце была фракцыя Народнага Фронту, якая і дамоглася за беларускую незалежнасць.

Тады ж Беларусь фармальна была парламенцкай рэспублікай, і са складу СССР выходзіла менавіта як парламенцкая рэспубліка.

За час, які наша краіна пражыла пад расейскім прыгнётам, беларусаў прывучылі жыць пад кіраўніцтвам аднаго чалавека, развучылі думаць і прымаць самастойныя рашэнні. Есць чалавек, які можа адказваць за усё, і добра. Галоўнае, не я вінаваты. Як кажуць, «мая хата з краю, нічога не знаю». Але ж да чаго гэта прыводзіць? Успомнім гісторыю. У 1933 годзе у Германіі выбралі, дарэчы дэмакратычна, адзінага адказнага чалавека. І што атрымалася? А атрымалася нямецкая дыктатура Гітлера, якая пасля прывяла да сусветнай вайны 1939 – 1945 гадоў. Тое ж савецкая дыктатура, таксама адзін адказны за усе чалавек, не трэба думаць, светлая будучыня... Тое ж і зараз. 15-ці гадовы лукашэнкаўскі рэжым ужо амаль канчаткова задушыў усякія праяўленні вольнасці, свабоды слава, дэмакратыі. Улада псуе чалавека, робіць з яго тырана. І гэта выдатна дэманструе нам гісторыя. Прэзідэнцкая рэспубліка эфектыўная там, дзе ў яе глыбокія гістарычныя карані, дзе дэмакратыя – не запіс на паперы, а рэальна існуючая сістэма на гістарычным падмурку.

У нас такі падмурак есць. Але крыху іншы. Гэта глыбокія карані парламенцкай сістэмы кіравання. Менавіта парламент з'яўляецца найярчэйшай крыніцай мірнага волевыяўлення народу. Няхай так прымаць рашэнні і цяжэй, чым гэта зробіць нехта адзін, але так выяўляецца не воля аднаго чалавека, але воля ўсяго народу. Па дзеючай жа Канстытуцыі галоўная крыніца ўлады – народ. Яго ж пакуль не чуюць.

Настаў час дэмакратычных змен у Беларусі. І першае, што трэба змяняць, на мой погляд – сістэму улады. Залатыя гады Беларусі – часы парламенцкіх рэспублік. Час аднаўляць традыцыі!





# БОЙ

***Вы можаце прагаласаваць за ўдзельніка, якога падтрымліваеце, праз тэлефон – +8 029 516 08 61, sms, e-mail: bchd.info@gmail.com, праз сайт: www.bchd.info, ці пошту: 220123, г. Мінск, а/с 324. (Проста пазначце прозьвішча – за каго аддаеце Ваш голас).***
***Пераможца ДВУБОЮ па выніках Вашага галасаваньня выходзіць у наступны тур!***
***Таксама прымаюцца заяўкі на ўдзел у ДВУБОІ.***



*У апошнім чвэрцьфінальным Двубоі, прысвечаным пытаньню уваходжаньня Беларусі ў НАТО, перамогу з лікам 195 : 183 атрымала прыхільніца нейтралітэту НАТАЛЬЛЯ ВАСІЛЕВІЧ.*

*прадпрымальнік*

## Лявон Скарабагаты:
### «Тэрыторыя нашай кватэры – у нейкім сэнсе незалежная краіна»



Па-першае, давайце ўдакладнім: мы гаворым не пра тое, якая форма дзяржаўнай улады наогул лепшая, а аб тым, што лепей канкрэтна для Рэспублікі Беларусь.

Па-другое, як ацаніць: «лепш ці горш»? Прапаную ўзяць за крытэр арт. 21 Канстытуцыі: «Вышэйшая мэта дзяржавы – забеспячэнне правоў і свабод грамадзян». Такім чынам, тая форма ўлады, якая лепш забяспечвае правы і свабоды грамадзян, тая і будзе лепшай для нас.

У большасці развітых, свабодных краін форма праўлення – парламенцкая рэспубліка. Парламенцкія рэспублікі – Італія, Германія, Грэцыя, Ізраіль, Аўстрыя. Прэзідэнцкая рэспубліка больш характэрна для краін Афрыкі, Азіі, Лацінскай Амерыкі. Тым не менш, Злучаныя Штаты – прэзідэнцкая рэспубліка. Больш таго, некаторыя краіны свабоднай Еўропы (Бельгія, Нарвегія, Швецыя, Іспанія) – наогул з'яўляюцца манархіямі. У той жа час такія краіны як Эфіопія, Турцыя – парламенцкія рэспублікі. Гэтыя прыклады паказваюць, што ад формы дзяржаўнай улады не так шмат залежыць.

Улада, як казаў дзядуля Ленін, гэта «аппарат насилия». Найлепшае жыццё ў людзей было ў часы, калі ўлады не было ніякай – ні прэзідэнцкай, ні парламенцкай. Ў той жа час, у тых вёсках не было злачыннасці, масавага п'янства, разбэшчанасці, беспрацоўя, наркаманіі, разводаў, абортаў, іншых язваў сучаснага грамадства. І ўсё гэта без існавання «аппарата насилия». Без паліцыі, пракурора, суду ды розных адміністрацыяў. Як ім гэта ўдавалася? Магчыма, была ў народа нейкая здольнасць да самаарганізацыі ды ўнутранае імкненне да добрага. Таксама шматвяковая хрысціянская традыцыя. Калі ўсе людзі мелі звычку жыць па правілу «Веруй у Господа, рабі дабро, ухіляйся ад зла», то «аппарат насилия» і не быў патрэбны.

На жаль, зараз гэта здольнасць у нашым народзе амаль страчана. Але страчана не ўсё. Таму нашым прыярытэтам зараз павінна быць не пабудова моцнай прэзідэнцкай ці яшчэ там якой рэспублікі, а адраджэнне ў хрысціянскім народзе яго спрадвечнага імкнення да добрага.

Як вучыць Св. Павел, Госпад заклікаў нас да свабоды, і мы не маем права схіляць шыю пад ярмо рабства (Пасланне да Галатаў 5:1). Таму, будзем імкнуцца захаваць сваю унутранную свабоду. Як казаў рускі пісьменнік Чэхаў, будзем па кроплі кожны дзень выціскаць з сябе раба. Кожны дзень на адну кроплю менш рабства – кожны дзень на адну кроплю больш свабоды. Ці, як казаў Прарок Майсей, кожны выбірае сам; быць рабом ці свабодным таксама кожны выбірае сам. Будзем жа заўсёды выбіраць свабоду. Будзем імкнуцца быць унутрана свабоднымі, будзем выхоўваць сваіх дзяцей свабоднымі людзьмі, будзем стварыць вакол сябе асяроддзе свабоды.

На заканчэнне прывяду яшчэ адзін прыклад. У 1933 годзе да ўлады ў Германіі прыйшоў Адольф Гітлер. Вялікая веруючая сямья ў поўным складзе сабралася, каб абмеркаваць, як жыць далей. Пытанне сур'ёзнае, таму сабраліся ўсе: дзядуля, бабуля, браты, дзеці, дзьдядзькі, пляменнікі. Размаўлялі ўсю ноч да раніцы. Нарэшце прынялі такое рашэнне: будзем жыць, як жылі раней – жыць годна, атрымліваць адукацыю, весці бізнес, нараджаць і выхоўваць дзяцей і г.д.

Такое ж рашэнне па іх прыкладу прыняла і наша сям'я, калі прыйшоў да ўлады цяперашні рэжым. Тэрыторыя нашай кватэры – у нейкім сэнсе незалежная краіна. Варожую ідэалогію на сваю тэрыторыю мы не пускаем, і воўчыя законы знешняга наваколля ў ёй не дзейнічаюць. На нашай тэрыторыі не дазваляецца красці, хлусіць, крыўдзіць слабейшых. Наадварот, дазваляецца сябраваць, дапамагаць, падтрымліваць адзін аднаго. Многія рашэнні, якія мы прымалі, былі процілеглымі тым, якія прымала афіцыйная дзяржаўная ўлада. Калі афіцыйныя ўлады прымалі рашэнне душыць бізнес і эканоміку, мы сваю эканоміку і бізнес, наадварот, падтрымлівалі і развівалі. Калі яны аб'явілі вайну ўсяму сьвету – мы спрабавалі ўсталёўваць сувязі з суседнімі краінамі. Калі яны ўзялі курс на рост продажу алкаголю – мы аб'явілі сухі закон. Зараз, калі прайшло ўжо 15 гадоў, можна з упэўненасцю сказаць: тое наша рашэнне было правільным.

А зараз уявіце, што ўсе беларускія хрысціянскія сем'і аб'явілі падобную незалежнасць. Пачалі памнажацца, падымацца, набірацца сіл, будаваць узаемныя сувязі. А потым уявіце, што яны аб'ядналіся паміж сабой – і з'явілася новая краіна. Вось такім чынам і можа нарадзіцца Новая Незалежная Свабодная Беларусь.

І ў гэтай краіне будзе, нарэшце, выкананы арт. 21 Канстытуцыі: будуць забеспячаны правы і свабоды грамадзян. А якая там будзе форма ўлады, прэзідэнцкая ці парламенцкая – гэта не самае галоўнае.

## АДКРЫТЫ ЛІСТ ПАЎЛА СЕВЯРЫНЦА МІТРАПАЛІТУ КАНДРУСЕВІЧУ

# БОЙЦЕСЯ БОГА І БОЛЬШ НІКОГА



Ваша Эксцэленцыя!

Шаноўны ксёндз-Арцыбіскуп!

Мне вельмі часта даводзілася казаць і пісаць пра тое, што Каталіцкі Касцёл у Беларусі – надзея і апірышча хрысціянскіх каштоўнасцяў, маральных прынцыпаў і самой беларускасці. Што не сістэма адукацыі, не міністэрства культуры, а менавіта Беларускі Касцёл адыгрывае зараз галоўную ролю ў захаванні і адраджэнні жывой беларускай мовы. Што ў Будславе, Касцёле святых Сымона і Алены, на такіх фэстах як «Магутны Божа» ці «Magnificat» мы бачым будучую Беларусь – поўную веры і любові, тую, пра якую ўсе мы марым. Вядомыя каталіцкія святары, такія як кардынал Казімір Свёнтэк, ксёндз Уладзіслаў Завальнюк, ксёндз Юры Барок, брат Пётра Рудкоўскі ды многія іншыя – сапраўдны ўзор Боскага служэння, патрыятызму і грамадзянскай мужнасці.

Мае сябры, аднадумцы і я сам – мы з вялікім уздымам успрынялі Ваша вяртанне на Радзіму ў якасці мітрапаліта: дзякуючы Вашай энэргічнай дзейнасці, Касцёл у апошнія два гады сапраўды стаў значна больш актыўным, адкрытым для грамадства, больш прывабным для моладзі. За кароткі час Вы засведчылі сябе не толькі як мудры пастыр і адміністратар, але і як палымяны прамоўца і сапраўдны духоўны лідэр.

Асабліва істотнымі для мяне былі тыя прамовы, дзе Вы заклікалі людзей пазбаўляцца страху, браць свой крыж ды ісці за Хрыстом – і следам за Эвангеллем і Папам Рымскім Янам Паўлам ІІ паўтаралі: «Не бойцеся!». Таму, звяртаючыся да Вас, я спадзяюся на разуменне, Ваш унікальны пастырскі досвед і Вашую шчырую любоў да Беларусі.

Днямі на малітоўнай сустрэчы ў Івянцы здарылася прыкрая падзея, што выклікала вялікі розгалас. Некалькі хлопцаў з аховы, арганізаванай з маладых католікоў, затрымалі і перадалі міліцыі 18-гадовую Насту Палажанку, якая падчас канцэрту на адкрытым паветры раздавала маладзёнам буклеты пра нацыянальныя сімвалы Беларусі. У міліцыі ў дзеяннях Насты ды ў змесце буклетаў не знайшлі складу правапарушэння – і без складання пратаколу адпусцілі. Але гора-ахоўнікі на гэтым не спыніліся – затрымалі і адвялі да міліцыі Любоў Каменеву, супрацьпраўным чынам абшукалі (зрабілі дагляд асабістых рэчаў) Змітра Бутэнку, некалькіх іншых маладых людзей, якія падаліся ім падазронымі. Дарэчы, нічога не знайшлі. Асабіста ў мяне запатрабавалі зняць значку з «Пагоняй»: маўляў, «такі загад».

Падкрэслю: нават міліцыя да людзей са значкамі не чаплялася.

А перад гэтым, падчас імшы ў касцёле, мы чулі і Вашу выдатную прамову, і хор моладзі, з якім разам цудоўна спявалі ўсе ўдзельнікі: «Будзьце мужныя!...»

Вельмі шмат маладзёнаў у размове абураліся: праз прадстаўнікоў «аховы» духоўная атмасфера на фэсце ператварылася ў паліцэйскую падазронасць. Дзеля справядлівасці трэба заўважыць, што некаторыя хлопцы з аховы спрабавалі суняць сваіх аднагодкаў, апантаных азартам «юнага дзяржынца» – але кіраўнік гэтай структуры працягваў «аперацыю па выяўленні крамольных элементаў».

Некаторыя скажуць: «не трэба ўцягваць Касцёл у палітыку».

Але як гэта атрымліваецца: двухсэнсоўны візіт Аляксандра Лукашэнкі з сынам Мікалаем (і расейскі букваром) у Ватыкан да Папы Рымскага – «не палітыка», а навуковы буклет пра нацыянальную сімволіку, скампанаваны з артыкулаў «Беларускай Энцыклапедыі», – «палітыка»? Прыдуманы бязбожнікамі-камуністамі чырвона-зялёны сцяг – «не палітыка», а бел-чырвона-белы сцяг Хрыста – «палітыка»?

Што ж тычыцца ўдзелу вернікаў у палітыцы – Вы, несумненна, ведаеце меркаванне Касцёла, сфармуляванае на Другім Ватыканскім Саборы.

«Трэба старанна клапаціцца пра грамадзянскую і палітычную пазіцыю, так пільна сёння патрэбную людзям, асабліва моладзі, каб усе грамадзяне маглі выконваць сваю задачу ў жыцці палітычнай супольнасці. Тыя, хто мае здольнасць да палітычнай дзейнасці, складанай, і ў той жа час вельмі высакароднай, павінны падрыхтавацца да яе і старацца займацца ёй, не думаючы пра сваю матэрыяльную карысць. Няхай выступаюць як супраць дыктату аднаго чалавека, так і самаўладства ці палітычнай неталерантнасці палітычнай партыі, дзейнічаючы мудра і беззаганна ў маральных адносінах. Больш за тое, няхай прысвячаюць сябе агульнаму дабру ў шчырасці і праўдзе, з любоўю і палітычнай адвагай».

**(Вучэнне Каталіцкага Касцёлу «Gaudium et spes». З п.75: «Супрацоўніцтва ўсіх у грамадскім жыцці».)**

Мы, хрысціянскія дэмакраты, бясспрэчна, падтрымліваем высілкі Каталіцкага Касцёлу ў Беларусі што да ўмацавання хрысціянскіх каштоўнасцяў і незалежнасці дзяржавы. Мы вітаем працу, якую Вы робіце для запрашэння Папы на Беларусь – бо такая гістарычная падзея выклікала б у Беларусі вялікі духоўны ўздым. Мы ацэньваем важнасць дамовы Каталіцкага Касцёлу з дзяржавай (нават пры сённішняй, далёка не дэмакратычнай уладзе). Але часам сродкі, якімі дасягаецца мэта, выклікаюць ў многіх і многіх вернікаў горкае пачуццё недаўмення і расчаравання.

У 2007-2008 гадах мы з прадстаўнікамі розных хрысціянскіх цэркваў ініцыявалі кампанію «За свабоду сумлення», у рамках якой сабралі больш як 50000 подпісаў за змену існуючага «Закона аб свабодзе сумлення» (паводле ацэнак праваабаронцаў – самага рэпрэсіўнага з падобных у Эўропе). Вы добра ведаеце, што на падставе гэтага закону з Беларусі былі высланыя барысаўскі ксёндз Збігнеў Грыгарцэвіч, рэчыцкі ксёндз Гжэгаж Худэк і яшчэ шэраг ксяндзоў і сёстраў-законніцаў; улады не дазваляюць будаваць новыя касцёлы, сарвалі некалькі канцэртаў, падрыхтаваных каталікамі, адмаўляюцца вярнуць вернікам Касцёл святога Язэпа.... Але вось высокапастаўлены кардынал на сустрэчы з кіраўніком Камітэту па справах рэлігіяў і нацыянальнасцяў Л. Гулякам кажа: «Закон аб свабодзе сумлення у Беларусі.... з'яўляецца добрым законам, дзе адлюстраваныя неабходнасць абароны і пашаны правоў пяці асноўных канфесій, традыцыйных на Беларусі».

Напрыканцы 2007 года мы пачалі грамадзянскую кампанію «Супраць засілля магіі і акультызму ў СМІ». Праваслаўная царква і ўсе пратэстанцкія цэрквы кампанію падтрымалі, і запатрабавалі ў дзяржавы змяніць «Закон аб рэкламе», які дазваляў рэкламаваць д'ябальскія практыкі і даваў права розным шарлатанам дурыць людзей. Пад ціскам грамадскасці Палата прадстаўнікоў 17 чэрвеня 2008 г. прыняла змены ў закон, але ўплывовыя лабісты гадалак і экстрасэнсаў ва ўладных калідорах затармазілі ўступленне папраўак у сілу. Нарэшце, пасля дадатковай грамадскай кампаніі, Аляксандр Лукашэнка папраўкі зацвердзіў – і рэклама акультызму ў СМІ была афіцыйна забаронена.

Але чаму Касцёл ізноў адстараніўся і маўчаў?

Варта сказаць, што на мясцовым узроўні сярод каталіцкіх святароў і вернікаў, нашыя ініцыятывы знаходзяць падтрымку – таму прыкладам супраца ў рамках кампаніі «Моцная сям'я – моцная Беларусь» (з мэтай змяншэння колькасці абортаў, змаганнем з алкагалізмам ды разбэшчанасцю сярод моладзі), або «Люблю Беларусь» («Беларускі Хрысціянскі Хіт», курсы беларускай мовы, семінары па гісторыі беларускага хрысціянства, лідэрскія курсы «Ды-джэяў Адраджэння» і г.д.). Але нярэдка можна пачуць і такое: «Дзякуй за матэрыялы, прапановы і інфармацыю. Добрую справу робіце, але супрацоўнічаць з вамі баімся – самі разумееце, іерархія.... улады».

Вы добра ведаеце, Ваша Эксцэленцыя, ў якой дзяржаве мы жывем. Грамадства працінае страх, часта беспрычынны і празмерны.

Але калі хрысціяне баяцца казаць праўду, размаўляць адно з адным і рабіць дабро – што тады застаецца іншым?

Мы спадзяемся, што для Касцёла важны не толькі дыялог з уладай, але і з грамадствам.

Сам я праваслаўны. І хаця веру, што «брамы пекла не адолеюць Царквы», у сваёй Царкве шмат з чым ня згодны. Час ад часу мне бывае сорамна за маўчанне ці паводзіны некаторых Яе прадстаўнікоў. Аб чым кажу і пішу.

Але Касцёл!... Мы ж памятаем: менавіта Касцёл адыграў ключавую ролю ў вызваленні Польшчы, Літвы, Славаччыны ад камунізму. Мы памятаем ролю Яна Паўла ІІ, кардынала Вышыньскага альбо ксяндза Ежы Папялушкі ў перамозе «Салідарнасці».

Сёлета, падчас спробы афіцыйна зарэгістраваць Беларускую Хрысціянскую Дэмакратыю, вернікаў (сярод якіх было шмат каталікоў) запалохвалі, пагражалі выключэннем з вучобы і звальненнем з працы (некаторых, дарэчы, звольнілі) – абы яны выйшлі з БХД. Але з 1071 заснавальніка толькі 8 адклікалі свае подпісы. Астатнія не збаяліся.

Пытанні, узнятыя ў гэтым лісце, абмяркоўваюцца на многіх каталіцкіх сустрэчах, фэстах, форумах ды пілігрымках. Думаю, адказнасць пастыраў – на такія пытанні адказваць.

Ваша Эксцэленцыя!

Нам хочацца жыць у краіне, дзе вераць у Бога і любяць сваю Радзіму.

Мы разумеем, што шлях да вольнай, дэмакратычнай, незалежнай, хрысціянскай Беларусі няпросты. Ёсць і будуць выпрабаванні, памылкі і пакуты.

Але веру: «любоў знішчае страх». (1 Яна. 4:18)

Таму малюся за тое, каб прынцыпам Каталіцкага Касцёлу ў Беларусі заставаліся словы Эвангелля, казанняў Яна Паўла ІІ і Вашых прамоваў, словы, якія Госпад паўтарае нам зноў і зноў: «НЕ БОЙЦЕСЯ!»

З павагай, надзеяй на адказ і ўзаемаразуменне,
**Павал Севярынец.**

# МІТРАПАЛІТ КАНДРУСЕВІЧ АДКАЗАЎ НА АДКРЫТЫ ЛІСТ СЕВЯРЫНЦА

**На сайце Каталіцкага Касцёла на Беларусі апублікавана інтэрв'ю з Тадэвушам Кандрусевічам «Касцёл сёння не баіцца жыць у Божай праўдзе», у якім Мітрапаліт адказвае на пытанні, узнятыя ў адкрытым лісце Паўла Севярынца «Бойцеся Бога і больш нікога».**



У прыватнасці, Мітрапаліт шкадуе пра інцыдэнты, якія адбыліся на нядаўняй сустрэчы каталіцкай моладзі ў Івянцы: «Адной з мэтаў такіх малітоўных сустрэч з'яўляецца стварэнне клімату любові, даверу, узаемаразумення. Гэта магчыма толькі ў тым выпадку, калі мы будзем з павагай і любоўю адносіцца адно да аднаго, а таксама памятаючы пра галоўныя мэты дадзеных мерапрыемстваў. Перапрашаю, калі гэта не зусім удалося».

Таксама кіраўнік Касцёлу выказваецца датычна ўдзелу каталікоў у палітычным жыцці:

«Касцёл не забараняе сваім вернікам удзельнічаць у палітычным жыцці. Касцёл забараняе святарам выстаўляць сваю кандыдатуру на выбары ў заканадаўчыя і выканаўчыя органы ўлады. Затое ён заахвочвае вернікаў прымаць удзел у палітычным і грамадскім жыцці, бо менавіта яны, калі будуць сапраўднымі хрысціянамі, будуць спрыяць, каб маральныя прынцыпы захоўваліся пры прыняцці законаў і іх практычным выкананні».

«Дазволю сабе прывесці яшчэ адну цытату з Кампендыума. «Для свецкіх вернікаў палітычная дзейнасць з'яўляецца годным і адказным выкананнем хрысціянскіх абавязкаў служыць бліжнім.»

Кранае Мітрапаліт Кандрусевіч і пытанні супрацы з іншымі хрысціянскімі канфесіямі, грамадскімі арганізацыямі, палітычнымі партыямі, дзейнасць Касцёлу ў справе абароны сям'і і свабоды сумлення.

Поўны тэкст інтэрв'ю з Тадэвушам Кандрусевічам можна прачытаць на ***catolic.by*** ці ***bchd.info***



## Шаноўныя браты і сёстры!

Калі Вы жадаеце атрымліваць бясплатную штомесяцовую рассылку БХД (чарговы нумар газэты «Крыніца», буклеты, узоры для збору подпісаў і г.д) – калі ласка, паведамце нам праз пошту

**220123, г. Мінск, а/с 324**,

ці e-mail: **bchd.mail@gmail.com**

або тэлефон – **8 029 5160861 (Павал)**.

**Незалежнае інфармацыйнае выданьне**
**Заснавальнік і выдавец: цэнтр«Сьветач»**
**Надрукавана на ксераксе п. М.Кухты Наклад: 299 ас.**
**Галоўны рэдактар: Павал СЕВЯРЫНЕЦ**

**Аб'ём: 12 палосаў А4. Падпісана ў друк 26 жніўня 2009**
**Тыражаваньне і распаўсюд усімі зацікаўленымі асобамі дазваляецца і вітаецца.**
**Распаўсюд бясплатны.**